

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 38 (221)
Субота, 23 верасня 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# 29 ВЕРАСНЯ – СВЯТА СВЯТЫХ АРХАНЁЛАЎ МІХАЛА, ГАБРЫІЛА І РАФАЛА

***Святы Міхал – князь анёлаў, пераможца Люцыпара і ўсіх злых духаў.***
***Арханёл Габрыіл звеставаў нараджэнне Ісуса Хрыста і Яна Хрысціцеля.***
***Святы Рафал – адзін з сямі анёлаў, якія служаць Госпаду.***

Анёлы па сваёй натуры адрозніваюцца ад людзей. Аднак і яны належаць да стварэнняў Божых.

Аб святым Міхале, Арханёле, мы знаходзім звесткі ў святым Пісанні ў кнігах Данііла: «І паўстане ў той час Міхал, князь вялікі, які стаіць за сыноў твайго народа» ( Дн 12, 1).

**Святы Арханёл Міхал** стаіць на чале духаў нябесных у барацьбе са злым духам. Ён – выканаўца Божых планаў адносна зямлі і роду чалавечага. Ён анёл суда і кар Божых, але ён і анёл Божай міласэрнасці.

Святы Міхал – пераможца Люцыпара, злых духаў і ўсіх сіл, варожых Госпаду Богу і Хрыстоваму Касцёлу, ён асабліва апякуецца Касцёлам Божым. Ён стаіць у галаве канаючых, калі вядзе апошні бой за душу чалавека з цёмнымі сіламі шатана, суправаджае душы памерлых на суд Божы. Перад касцёлам св. Сымона і святой Алены ўстаноўлена (28 верасня 1996 г.) скульптура святога Міхала, арханёла - апекуна Касцёла і Беларусі.



Арханёл Габрыіл

Будзем прасіць заступніцтва нашага апекуна свввятога Міхала, арханёла, каб Ён абараніў нас ад напасцяў шатана Люцыпара, ад розных спакусаў, каб давёў нас да брам нябесных і быў заступнікам перад Госпадам нашым Ісусам Хрыстом.

Паплечнікам Арханёла Міха ла быў **Арханёл Габрыіл**.

Мы ведаем св. Габрыіла як вестуна нараджэння св. Яна Хрысціцеля і як вестуна Найсвяцейшай Марыі, Панне, аб нараджэнні Сына Божага – Ісуса Хрыста. Арханёл Габрыіл – апякун святой Сям'і.

Ён аб'явіўся Юзафу ў сне і сказаў:

«Юзаф, сын Давідаў! Не бойся прыняць Марыю, жонку тваю, бо пачатае ў Ёй ёсць ад Духа Святога. Яна народзіць Сына, і дасі Яму імя Ісус: гэта Ён збавіць свой народ ад яго грахоў» (Мц 1, 20-21).

Другі раз Габрыіл папярэджвае Юзафа аб намеры Ірада замардаваць Дзіцятка і наказаў уцякаць у Егіпет: «Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго і адыходзь ў Егіпет; будзь там, пакуль не скажу табе, бо Ірад будзе шукаць Дзіця, каб загубіць Яго» (Мц 2, 13).

Зноў, пасля смерці Ірада, Габрыіл наказаў Юзафу вярнуцца ў Назарэт:

«Прачніся, вазьмі Дзіця і Маці Яго і ідзі ў зямлю Ізраілеву» (Мц 2, 19-20).



Арханёл Міхал

Арханёл Габрыіл суцяшаў Ісуса падчас Яго пакут у садзе Аліўным, прысутнічаў пры велічным Уваскрашэнні Хрыста і пры хвалебным Узнясенні Яго на неба.

Просім арханёла Габрыіла мець над намі апеку, над нашымі сем'ямі і ўсім хрысціянскім народам.

**Арханёл Рафал** – імя гэта абазначае з яўрэйскага «Бог аздаравіў». Рафал – адзін з сямі анёлаў, якія заўсёды гатовыя служыць Усявышняму.

Арханёл Рафал шчасліва перавёў маладога Тобія праз розныя цяжкасці і прыгоды ў Персію, дзе жыў сваяк Тобія, які быў вінен яму значную суму грошай.

*Заканчэнне на стар. 11*

# НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА Ў ЖДАНОВІЧАХ

***10 верасня распачаўся новы навучальны год у нядзельных катэхетычных школах. Але сапраўды новым ён быў для дзетак Ждановіч.***



Толькі на мінулым тыдні была зарэгістрававана парафія Маці Божай Чанстахоўскай. На першай Імшы прысутнічала ўжо каля паўсотні вернікаў, якім было аб'яўлена аб распачацці нядзельнай школы.

Так, кожную нядзелю а 15-й гадзіне ў Ждановічах будзе служыцца Святая Імша, а перад набажэнствам з дзеткамі будзе займацца катэхетка і кіраўнік хору. Будуць іх рыхтаваць да Святых Сакрамантаў – святой Споведзі і Першай святой Камуніі.

І ужо ў першы дзень заняткаў 9 маленькіх парафіян прыбегла са сшыткамі і алоўкамі на катэхезу. Узрост іх ад 4 да 11 гадоў. Самая маленькая вучаніца прыйшла разам з сястрычкай, але Ліза была самай цікаўнай і ўважлівай. На першым занятку яны знаёміліся са сваёй катэхеткай, расказвалі аб сабе. Шмат талентаў маюць дзеці: па-першае, добра вучацца, займаюцца музыкай і спортам, цікавяцца самымі разнастайнымі рэчамі, дапамагаюць сваім бацькам, любяць жывёл, а Настачку нават праводзіў на заняткі яе сабачка Бой.

Перад пачаткам Імшы і заняткаў з дзецьмі развучылі некалькі песень. Першы ўрок музыкі далі дзецям кіраўнікі дзіцячага і маладзёжнага хароў. І ўжо Святую Імшу суправаджаў імправізаваны дзіцячы хор. Так хутка дзеці падхвацілі словы і музыку новых песень аб Ісусе Хрысце і Маці Божай.

Служыў святую Імшу святар – пробашч касцёла св.Сымона і Алены Уладыслаў Завальнюк, таксама маліліся разам ксёндз-дыякан Віктар, клерык Дзмітрый. Пад суправаджэнне электрааргана пелі дзеці і дарослыя. Ксёндз-дыякан Віктар звярнуўся да дзетак з тлумачэннем неабходнасці нядзельнай школы, у якой праводзіцца катэхеза: «Расце і развіваецца ваше цела, вы расцёце ўгару, але патрэбна, каб узрастала і ваша душа, бо чалавек складаецца з душы і цела. Цела расце, калі мы ядзім хлеб штодзённы. А што патрэбна, каб расла душа? Таксама харчавацца. Але Словам Божым, малітвай і хлебам, які нам пакінуў Ісус Хрыстос».



Вось нядзельная школа і прызваная, каб дзеці маглі глыбей пазнаваць такіе важныя таямніцы для ўсіх таямніцы веры. Святары падзякавалі дзецям за іх заінтэрасаванасць, неўтаймаванасць, жаданне вучыцца, а бацькоў і дзядуль з бабулямі за тое, што прывялі ў школы сваіх дзяцей і ўнукаў, тым самы набліжаючы іх да Бога.

Нядзельная школа ў Ждановічах будзе набываць сваіх новых вучняў, як і парафія будзе расці, набываць новых вернікаў, бо так патрэбны для ўзрастання пачуцця хрысціянскай годнасці і аднаўлення веры нашай краіне вось такія школы і адкрыццё новых парафій.

*Ала Неверовіч*

# ДИАЛОГ КУЛЬТУР

***Международная конференция «Диалог культур и межре-лигиозное сотрудничество» прошла на территории России в Нижнем Новгороде.***

Международная конференция «Диалог культур и межрелигиозное сотрудничество» (Поволжский форум) проходила в Нижнем Новгороде. Форум, проходивший в здании Нижегородской ярмарки, организован Министерством регионального развития РФ, Российским представительством в Комитете министров Совета Европы и Советом Европы.

Первое пленарное заседание вели министр регионального развития РФ Владимир Яковлев и комиссар Совета Европы по правам человека Томас Хаммарберг.

К участникам форума обратился представитель президента РФ в Поволжском федеральном округе Александр Коновалов, отметивший, что сегодня существуют два типа объединения общества: американский (на основе экономической общности) и европейский (на основе межкультурного диалога). Религиозные ценности, считает полпред, могут восприниматься адекватно и неадекватно: в первом случае это ведет к «толерантности и законопослушанию», во втором – к нетерпимости и агрессивности. Классическим примером неадекватного восприятия религиозных ценностей А. Коновалов считает недавний «карикатурный скандал». Архиепископ Берлинский и Германский Феофан (Галинский) зачитал приветствие Патриарха Московского и всея Руси Алексия II, в котором, в частности, выражалось сожаление, что в нынешней Европе слишком поздно было осознано значение религии в жизни общества. Председатель комитета Госдумы по делам общественных объединений и религиозных организаций Сергей Попов упомянул две противоположные модели в отношении к религии: в соответствии с первой из них, вера является сугубо личным делом человека – напротив, вторая модель, которой придерживаются консервативно настроенные мыслители и общественные деятели, подразумевает «нарочитое выпячивание религиозных особенностей» и ведет к ксенофобии и шовинизму. Сергей Попов отметил также положительный вклад Межпарламентской ассамблеи православия, которую он возглавляет, в диалог с Организацией Исламская конференция.



*Окончание на стр. 4*

## АБ`ЯВЫ

***Дарагія дзеці і моладзь! Нядзельная школа нашай парафіі адкрыла для вас свае дзверы!***

**Расклад заняткаў у нядзельнай школе касцёла св. Сымона і св. Алены**

| Дзень тыдня | Імя і імя па бацьку катэхеткі | Час катэхезы | Клас |
|---|---|---|---|
| Аўторак | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 2 |
| Аўторак | Часлава Чаславаўна | 18.00 | моладзь |
| Серада | Марыя Чаславаўна | 10.00, 18.00 | 1 |
| | | 19.00 | 2 |
| Чацвер | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 1 |
| Субота | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | дзеці 3-6 год |
| Нядзеля | Наталля Уладзіміраўна | 09.45 | 1 |
| Нядзеля | Алена Канстанцінаўна | 10.00 | 1 |
| Нядзеля | Алена Рафаілаўна | 10.00 | 2 |
| Нядзеля | Галіна Пятроўна | 10.00 | моладзь |
| Нядзеля | Алена Канстанцінаўна | 12.30 | 2 |
| Нядзеля | Алена Рафаілаўна | 12.30 | 1 |
| Нядзеля | Ганна Раманаўна | 14.30 | дарослыя |
| Нядзеля | Галіна Станіславаўна | 15.30 | 1 |
| Нядзеля | Ганна Раманаўна | 16.00 | «Гасанна» |
| Нядзеля | Галіна Станіславаўна | 18.00 | 2 |
| Нядзеля | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 2 |

# ВИЗИТ К СВЯТОМУ ЛИКУ

***Бенедикт XVI совершил частное паломничество к Плату Вероники. Утром 1 сентября Святой Отец Бенедикт XVI вылетел на вертолете из летней резиденции Кастель Гандольфо и в 9.45 прибыл на специально сооруженную для этого случая вертолетную площадку недалеко от санктуария Святого Лика в Маноппелло (Кьети).***

Среди встречавших Папу были архиепископ Кьети-Васто монс. Бруно Форте, глава региона Абруццо-Молизе Оттавиано Дель Турко, глава регионального совета Марино Розелли и другие представители гражданских и военных властей.



В 10.00 Папа подошел пешком к санктуарию. Не смотря на то, что визит планировался как «частный», около пяти тысяч паломников встретили Бенедикта XVI на площади и сотни людей успели к нему прикоснуться. В течение 20 минут, пожимая руки и целуя детей, Папа добирался до входа в святилище, и от дверей обратился к собравшимся со словами приветствия. Войдя в санктуарий, Папа на коленях помолился перед Святыми Дарами, а затем поднялся по ступеням к образу Святого Лика.

Бенедикт XVI стал первым понтификом, который посетил церковь Святого Лика, где хранится древняя христианская реликвия - плат размером 17 на 27 сантиметров с изображением человеческого лица, который принято считать легендарным Платом Вероники. Согласно христианской традиции, Вероникой звали женщину, которая во время Крестного пути на Голгофу подала Христу плат, чтобы он мог вытереть лицо от пота и крови. На куске ткани чудесном образом отпечаталось лицо Иисуса. Научные исследования подтверждают, что портрет на плате не был написан краской. Исследователь Паскалис Шлюмер установил, что лицо, изображенное на плате из Маноппелло, идентично лицу с Туринской Плащаницы, в которую, по преданию, было завернуто тело Христа перед погребением

После молитвы у Лика, Папа выслушал приветственное обращение архиепископа Кьети-Васто монс. Бруно Форте, получил в подарок икону и произнес речь. В заключение визита он прошел в монастырь капуцинов, где встретился с монашеской общиной, являющейся хранительницей реликвии Святого Лика, но это увлекательное зрелище осталось скрытым от телекамер.

В 11.30 Папу проводили на площадку, откуда он вернулся вертолетом в Кастель Гандольфо.

*По материалам агенства Agnuz, сайта poputchik.ru, газет Утро, Il Tempo и канала CTV*

---

*Окончание, начало на стр. 3*

Председатель совета муфтиев России Равиль Гайнутдин выразил глубокую озабоченность в связи с продолжающимся насилием на Ближнем Вос- токе, в Ираке и Афганистане, а также напряженностью вокруг «программы мирного атома в Иране», напомнив об ответственности СМИ за нагнетание межнациональной и межрелигиозной вражды. Терроризм, убежден Гайнутдин, не имеет национальных и религиозных признаков, а Россия, благодаря своему уникальному географическому положению – призвана стать мостом между Западом и исламским миром. Главный раввин России (ФЕОР) Берл Лазар, также принимающий участие в форуме, заявил, что сегодня идейный вакуум заполняется человеконенавистнической идеологией, типичным носителем которой является устроивший резню в синагоге Александр Копцев. Берл Лазар также высказался против преподавания в школах исключительно основ православной культуры, посоветовав знакомить учащихся с основами всех основных религий. Католический архиепископ Люблинский Юзеф Жичиньский рассказал о положительном примере преодоления конфликта, каковым стала совместная молитва ирландских католиков и протестантов о жертвах терактов. На первом заседании также выступили: председатель Парламентской ассамблеи Совета Европы Рене Ван дер Линден, представитель комитета министров Совета Европы Кристиан Тер-Степанян, посол Финляндии Арто Мансала.

*Agnuz*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 24 ВЕРАСНЯ, 25 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
## ЧЫТАННЕ КНІГІ МУДРАСЦІ

*(Мдр 2, 12. 17-20)*

Бязбожнікі казалі самі сабе:

«Зробім пастку на справядлівага, бо ён бескарысны для нас і праціўіцца нашым учынкам, дакарае нас супраць закону, вінаваціць нас у грахах супраць нашага выхавання.

Пабачым, ці праўдзівыя словы ягоныя, і праверым, што будзе пры сконе ягоным. Бо калі справядлівы – сын Божы, то Бог абароніць яго і вырве яго з рукі праціўнікаў.

Праверым яго знявагай і пакутай, каб пазнаць ягоную лагоднасць і выпрабаваць ягоную цярплівасць. Асудзім яго на ганебную смерць, бо, як ён кажа, паклапоцяцца аб ім.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 54 (53), 3-4. 5. 6 і 8 (Р.: 6в)*

***Рэфрэн: Падтрымлівае Госпад маё жыццё***

Збаў мяне, Божа, сваім імем, *
і судзі мяне сваёю моцай.
Божа, пачуй маю малітву, *
выслухай словы маіх вуснаў.

***Рэфрэн.***

Бо супраць мяне паўсталі чужынцы, *
шукаюць магутныя майго жыцця,
яны не маюць Бога *
перад сабою.

***Рэфрэн.***

Вось Бог мне дапамагае, *
Госпад падтрымлівае маё жыццё.
Дабраахвотна я прынясу Табе ахвяру, *
падзякую Твайму імені, Госпадзе, бо яно добрае.

***Рэфрэн.***

## ЧЫТАННЕ ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ЯКУБА

*(Як 3, 16 – 4, 3)*

Умілаваныя:

Дзе зайздрасць і сварлівасць, там таксама бязладнасць і ўсялякае ліхадзейства. Мудрасць жа, якая сыходзіць з гары, перш за ўсё чыстая, далей, схільная да згоды, памяркоўная, паслухмяная, поўная міласэрнасці і добрага плёну, вольная ад поглядаў людскіх і крывадушнасці. Плод жа праведнасці сеюць у спакоі тыя, хто ўсталёўвае спакой. Хцівасць і ганарлівасць.

Адкуль жа бяруцца войны і адкуль сваркі паміж вамі? Не аднекуль, толькі з вашых пажадлівасцяў, якія змагаюцца ў вашых члянцах. Жадаеце, але не маеце, маеце забойчую зайздрасць, але не можаце дамагчыся. Ведзяце бойкі і сваркі, але не маеце, бо не моліцеся. Моліцеся, але не атрымліваеце, бо кепска моліцеся, стараецеся толькі пра задавальненне вашых жаданьняў.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

Бог паклікаў нас праз Евангелле
для дасягнення хвалы нашага Госпада Ісуса Хрыста.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

## ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ МАРКА

*(Мк 9, 30-37)*

У той час:

Ісус і Яго вучні выйшлі і праходзілі праз Галілею. Аднак Ён не хацеў, каб хто ведаў пра гэта. Бо павучаў Сваіх вучняў і казаў ім: «Сын Чалавечы будзе аддадзены ў рукі людзей. Яны заб'юць Яго, але забіты пасля трох дзён уваскрэсне». Яны ніяк не разумелі гэтых слоў, а спытацца ў Яго баяліся.

Так прыйшлі яны ў Кафарнаўм. Калі Ён быў у доме, спытаўся ў іх: «Аб чым вы ў дарозе гутарылі?» Але яны маўчалі, бо ў дарозе паспрачаліся пра тое, хто з іх найбольшы. Ён сеў, паклікаў Дванаццаць і сказаў ім: «Калі хто хоча быць першым, няхай будзе апошнім з усіх і слугою ўсім!» Потым узяў дзіця, паставіў яго перад імі і, абняўшы яго, сказаў ім: «Хто прымае аднаго з гэтых дзяцей у Імя Маё, той прымае Мяне; а хто прымае Мяне, той прымае не Мяне, а Таго, Хто паслаў Мяне».

***Лектар:*** Гэта слова Госпада.

***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.

# ПАДЗЯКА БОГУ І АГЛОНЕ

***Як вядома, кожная пілігрымка – гэта вялікі дар Божы для чалавека, гэта незабыўныя хвіліны, дні малітвы і паяднання на хвалу Божую з тымі, хто побач; гэта новыя сустрэчы на шляху жыцця з людзьмі, аб'яднанымі касцёлам адным духам – Духам Божым, любоўю да Хрыста і Яго Найсвяцейшай Маці.***

Менавіта з такім адчуваннем ехала я да Аглоны, дзе знаходзіцца велічны санктуарый Найсвяцейшай Панны Марыі. І гэтае пачуццё ўдзячнасці Госпаду за Яго вялікую ласку вылілася ў такіх радках:

*Якое шчасце –*
*наша пілігрымка,*
*Бо побач родныя па духу людзі.*
*У іх знойдзеш дапамогу*
*і падтрымку,*
*І разам з намі Езус*
*крочыць будзе...*

Напэўна, кожны пілігрым успрымае і адчувае ўсё пасвойму, але для мяне асабіста гэтая пілігрымка была значная яшчэ і таму, што ўпершыню мой муж згадзіўся паехаць разам са мною, а, галоўнае, зразумеў сэнс таго, што такое пілігрымка і чаму я так імкнуся далучыцца да тых, хто ідзе ў пілігрымцы. І гэты цуд далучыцца (згода яго ехаць разам) адбылася дзякуючы Госпаду, сіле Яго Слова і заступніцтву Матачкі Божай: вось ужо на працягу года я кожную раніцу ўслых чытаю «Слова Божае на кожны дзень» і малюся ў дадатак да ранішніх малітваў, звяртаючыся з просьбай аб дапамозе, – «Пад Тваю абарону...»

Дзякуй Богу, мае намаганні далі свой плён, а Найсвяцейшая Панна Марыя, якая паклікала нас з далёкай Аглоны, прыцягнула да Сябе і Свайго Сына нават тых, хто пачынаў губляць ці наогул не меў веры.

Таму пасля вяртання з пілігрымкі я адчула вялікую радасць, калі муж мой сказаў: «Дзякую табе, што ты выцягнула мяне ў пілігрымку», а цяпер кожны дзень пытаецца, калі будзе наступная. Я разумею, як быў ён уражаны, ідучы разам з тысячамі людзей Крыжовай дарогай з запаленымі свечкамі, як на свае вочы пабачыў супольную малітву на пляцу перад санктуарыем падчас св. Імшы, якое ўзрушэнне перажыў, слухаючы казанне нашага ксяндза-пробашча Уладыслава Завальнюка ў Латвіі на беларускай мове, а потым уважліва



услухоўваючыся, як спявае хор «Голас душы».

Як жа можна не дзякаваць Госпаду Богу і Найсвяцейшай Панне Марыі?! Я быццам бы пабачыла духоўнае нараджэнне чалавека – свайго мужа. Я адчула гэтую перамену, якая адбылася ў яго душы! Асабліва тады, калі ён, падыходзячы да мяне, сказаў: «Ідзем, я пакажу табе тое, што хачу падараваць табе».

Мы разам падышлі да прылаўкаў, што былі размешчаны каля святыні, і ён купіў для мяне вельмі прыгожы крыж св. Бенедыкта. Радасць увайшла ў мае сэрца, як і тады, калі мой муж сказаў, што ён – мой «фундатар». Можа таму і з'явіўся гэты верш – як выражэнне пачуццяў, якія перапаўняюць мяне:

*Касцёл узрастае ў маёй душы,*
*Будаўніцтва ўгору ідзе,*
*Муж- «фундатар»*
*мне дапамагае*
*З пілігрымкай ідзе ў грамадзе.*
*Я з удзячнасцю Госпаду Богу,*
*Найсвяцеейшай Матулі Яго,*
*Буду ўзводзіць*
*праз Крыж і Дарогу*
*Сцены храма – будынка*
*таго.*
*Крыж прыгожы,*
*набыты ў Аглоне,*
*Умацую вышэй да нябёс,*
*Каб свяціў ён*
*на хвалу Гасподню,*
*Як падзяка за ласку –*
*мой лёс!*

Ці ж гэта не ласка Божая, дадзеная мне па Яго найвялікшай міласэрнасці? Ці ж можна не адчуваць узрушэння, узнёслага хвалявання і ўдзячнасці Госпаду за тое, што ты адчуваеш Яго падтрымку на дарогах жыцця – цяжкой пілігрымкі, якая вучыць вытрымцы, цярпенню, прабачэнню недасканаласць бліжняга і даверу, бясконцага даверу Айцу Нябеснаму і шчырай удзячнасці за ўсё, што Ён табе дае, а найлепш – за самы вялікі дар – нашу Агульную Матулю – Найсвяцейшую Панну Марыю.

### Падзяка Аглоне

Аглона, Аглона!
Прыветны куточак зямлі!
У цяжкой пілігрымцы
к табе беларусы прыйшлі!
З удзячнасцю шчырай
схілілі галовы свае.
Прабач нас, бо ўсе мы
тут грэшныя дзеці твае.
Прабач нас, Марыя,
і ласкай сваёй атулі,
Лагодай і згодай, і радасцю
нас наталі.
Мы верым у Слова Айца,
ласку Сына Твайго
Ты ўсіх нас у духу з'яднай
дзеля сэрца Яго.

*Этолія Пармон*

# ТРАДИЦИЯ МОЛИТВЫ

***В живой традиции молитвы каждая Церковь предлагает своим верным язык молитвы, в соответствии с историческим, социальным и культурным контекстом: слова, мелодии, жесты, иконографию.***

*Продолжение, начало в № 32*

***«Приди, Дух Святой».***

«Никто не может назвать Иисуса Господом, как только Духом Святым» (1 Кор 12,3). Всякий раз, когда мы начинаем молиться Иисусу, Сам Дух Святой Своей предвосхищающей благодатью влечет нас на путь молитвы. И, коль скоро Он учит нас молиться, напоминая нам о Христе, то как же нам не молиться Ему Самому? Поэтому Церковь приглашает нас обращаться каждый день к Святому Духу, особенно в начале всякого важного дела и при его завершении.

Если Духу не подобает поклоняться, то как обожил Он меня крещением? И если Ему подобает поклоняться, не следует ли воздавать Ему особое почитание?

По традиции мы просим о ниспослании Святого Духа, обращаясь к Отцу через Христа, Господа нашего, чтобы Он даровал нам Духа Утешителя. Иисус настаивает на этом прошении во имя Его в тот самый момент, когда Он обещает дар Духа истины. Но самая простая и самая прямая молитва также традиционна: «Приди, Дух Святой»; и каждая литургическая традиция развила эту молитву в песнопениях и гимнах: «Приди, Дух Святой, наполни сердца верных Твоих и зажги в них огонь Твоей любви.

Царю Небесный, Утешителю, Душе истины, иже везде сый и вся исполняяй. Сокровище благих и жизни Подателю - прииди и вселися в ны, и очисти ны от всякия скверны, и спаси, Блаже, души наша».

Дух Святой, помазание Которого пронизывает все наше существо, внутренний Наставник христианской молитвы. Он - создатель живой традиции молитвы. Конечно, молитвенных путей существует столько же, сколько и молящихся; тем не менее, один Дух действует во всех и со всеми. В общении Святого Духа христианская молитва есть молитва Церкви.

***В общении со Святой Матерью Божией.*** В молитве Дух Святой соединяет нас с Ипостасью Единого Сына, в Его прославленном Человечестве. Через него и в нем наша сыновняя молитва приобщается в Церкви к Матери Иисуса.



После согласия, данного в вере при Благовещении и без колебания сохраненного у креста, материнство Марии простирается на братьев и сестер Ее Сына, «еще странствующих и находящихся в опасностях и тревогах». Иисус, единственный Посредник, есть путь нашей молитвы; Мария, Его Матерь и наша Матерь, в отношении Его совершенно прозрачна [т.е. через Нее мы явственно видим Христа]: согласно традиционной иконографии Востока и Запада, Она - «Указующая путь» (Одигитрия), «Знамение».

В этом исключительном содействии Марии действию Святого Духа берет начало развивающаяся в Церквах молитва к Святой Матери Божией, сосредоточенная на Лице Христа, явленном в Его тайнах. В бесчисленных гимнах и песнопениях, выражающих эту молитву, обычно чередуются две линии: одна «величает» Господа за «великие дела», которые Он сотворил для смиренной Рабы Своей и через Нее для всех людей; другая линия вверяет Матери Иисуса моления и хвалы детей Божиих, ибо Она знает теперь человечество, которое в Ней сочеталось с Сыном Божиим.

Эти две линии молитвы к Марии находят особое выражение в молитве «Ave Maria»:

*«Радуйся, Мария».* Приветствие архангела Гавриила открывает молитву. Сам Бог через посредничество Своего ангела приветствует Марию. Мы в своей молитве дерзаем повторить это приветствие, имея в виду, что Бог призрел на смирение Рабы Своей, и возвеселиться той радостью, какой Он ликует о Ней.

*«Благодатная, Господь с Тобою».* Две фразы ангельского приветствия поясняют одна другую. Мария исполнена благодати, потому что с Ней Господь. Благодать, которой Она исполнена, есть присутствие Того, Кто является источником всякой благодати. «Радуйся, Дщерь Иерусалима! (...) Господь Бог Твой среди Тебя» (Соф 3,14.17). Мария, Которая становится обителью Самого Господа, - это Сама Дочь Сиона, Сам ковчег завета, то место, где обитает слава Божия; Она есть «скиния Бога среди людей» (Откр 21,3). «Благодатная», она полностью предана Тому, Кто вселяется в Нее и Кого Она готовится дать миру.

*«Благословенна Ты среди женщин, и благословен плод чрева Твоего, Иисус».* Повторив приветствие ангела, мы произносим приветствие Елисаветы. «Исполнившись Духа Святого»...

*Из Катехизиса Католической Церкви. Продолжение следует*

# ПИЙ XII – ЖИЗНЬ ПАПЫ

***Известно, что однажды Сталин спросил - "Сколько дивизий у Папы?", но мало кто знает, что ответил Пий XII.***

Кардиналы избрали Эудженио Пачелли 262-м Папой в его 63-й день рождения, 2 марта 1939 года. Он получил 61 из 62 голосов (поскольку сам за себя не голосовал) и был избран Понтификом. Прослужив Церкви четыре десятка лет под началом четырех Пап (Льва XIII, св. Пия X, Бенедикта XV и Пия XI), 2 марта 1939 года Эудженио Пачелли принял имя Пия XII и получил ключи верховной юрисдикции, данной Князю Апостолов: "Ты - Петр, и на сем камне Я создам Церковь Мою". Колокола собора Святого Петра зазвонили 12 марта 1939 года, и взоры бессчетного множества людей обратились к балкону.

Облаченный в белую каппу, в серебряной, усыпанной самоцветами митре на голове, появился Папа Пий XII. Кардинал Никола Канали снял с него митру. Кардинал Камилло Каччья-Доминиони возложил на ее место папскую тиару, произнеся слова: "Прими тиару, увенчанную тремя коронами, и знай, что ты - отец князей и царей, суверенный владыка мира и земной наместник нашего Спасителя Иисуса Христа, Которому да будет честь и слава ныне и вовеки. Аминь".

В гербе Папы Пия XII - символ мира - голубь с оливковой ветвью. Его девиз говорил о мире как плоде справедливости: "Opus justitiae pax" (Исаия, 32, 17). Первое его обращение к миру по радио было: "Мир, дар Божий, которого желают все праведные, плод любви и справедливости..." Он был человеком мира.

24 августа 1939 года он передал всем папским представителям текст послания, который просил вручить правительствам стран, в которых те служили. Вечером он сам произнес эту речь, обращенную ко всему миру: "Опасность неминуема, но время еще есть. С миром ничто не потеряно; с войною можно лишиться всего. Пусть же люди вернутся к взаимному пониманию! Пусть вновь начнут переговоры, совещаясь друг с другом по доброй воле и уважая права друг друга..."

1 сентября 1939 года нацистские танки пересекли границу Польши. Началась Вторая мировая война. В своей энциклике "Summi Pontificatus" (27 октября 1939 года) Пий XII осудил действия Гитлера. 28 декабря 1939 года Папа посетил с церемониальным визитом короля Виктора Эммануила III и королеву Елену в Квиринальском дворце. Целью визита было ответить на посещение королевской четой Папы, имевшее место неделей раньше, а также продемонстрировать поддержку Ватиканом нейтралитета Италии.



Исторические документы показывают, что Пий XII действовал как связной между правительством Британии и рядом немецких диссидентов, желавших свержения Гитлера. Папа оставил свою обычную осторожность и поддерживал эти контакты вплоть до вторжения Германии в Данию и Норвегию в апреле 1940 г. В следующем месяце, когда немцы вошли в Нидерланды, Папа направил телеграммы лидерам этой осажденной страны, молясь о ее избавлении. Вскоре Муссолини встал на сторону Гитлера. Когда в сентябре 1943 года нацисты оккупировали Рим, Папа старался спасти как можно больше евреев. Он немедленно направил во все мужские и женские монастыри указание отворить их двери, чтобы евреи могли укрыться там. Сам же Пий XII пригласил евреев и других беженцев вступать в ряды ватиканской палатинской гвардии. За несколько месяцев ее число возросло с 400 до 4 тысяч человек.

Повсюду в Европе гонимые, особенно - евреи, взывали к Пию XII. Около пятисот евреев плыли на пароходе из Братиславы в Палестину; корабль хотел войти в порт Стамбула, но не получил разрешения на высадку пассажиров. Евреи были арестованы итальянским патрульным судном и помещены в лагерь на о. Родос. Одному из заключенных удалось обратиться за помощью к Пию XII. Благодаря вмешательству Папы (без ведома руководства Оси) беженцы были переведены в импровизированный ла- герь в Феррамонти-Тарсия на юге Италии, где Союзники и обнаружили их спустя три года, в декабре 1943 г., в полной сохранности.

Понтификат Пия XII оставил прочный след в истории Католической Церкви. Он прожил жизнь, полную действия, вдохновленного глубокой набожностью. Понимая слабость человеческой природы, Папа нес повсюду утешение, мир и ободрение. Стремясь ближе привести людей ко Христу, Пий XII также ввел многочисленные литургические реформы...

*Ратцингер Информ*

*Продолжение Следует*

# АГЛОНА... ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЛАТВІЯЙ

***У Бельгіі і ўва ўсёй Еўропе біскуп Баляслаў Слоскан стаў сімвалам Касцёла, які церпіць ганенні. Яго духоўнае жыццё адзначалася глыбокім ушанаваннем Еўхарыстыі і любоўю да Панны Марыі.***

Штодня ён маліўся на Ружанцы, абыходзячы ўсе тры часткі, прысвячаючы Хвалебныя таямніцы за Мінскую і Магілёўскую дыяцэзіі на Беларусі, за Латвію, за царкву на радзіме і за навяртанне Расіі. Яго Эксцэленцыя Баляслаў Слоскан жыў у адпаведнасці з абраным ім самім біскупскім дэвізам «Hostia pro fratribus» – «ахвяра за братоў» і ахвяраваў свае пакуты за Касцёл.

Біскуп памёр 18 красавіка 1981 г. у Вялікую Суботу, памёр як сведка Божай міласэрнасці. Падчас выканання спева «Salve Regina» яго твар нечакана пасвятлеў і асвяціўся. Адначасова з апошнімі словамі... «post hoc exilium...O Clemens...» – «пасля гэтага зямнога выгнання... О Літасць...» – шмат выцерпеўшы пакутнік аддаў Богу сваю душу.

10.10.1993 г. астанкі біскупа Баляслава Слоскана былі перавезены з Бельгіі ў крыпту Аглонской Базілікі.



Усё, хто сустракаў на сваім жыццёвым шляху біскупа Баляслава Слоскана бачылі яго глыбокую набожнасць, сардэчнасць, пакору. Пакора і гатоўнасць да пакут выяўлялі яго сутнасць. Яго Эксцэленцыя быў, у сваю чаргу, поўны гарачага жадання дапамагчы пастве, ніколі не злаваў на тых, хто яго крыўдзіў і меў сілы маліцца за ганіцеляў. Біскупа Баляслаўва Слоскана завуць веснікам Нагорнай пропаведзі.

У 2000 годзе пачаўся працэс беатыфікацыі, каб прызнаць Баляслава Слоскана блаславёным.

20 снежня 2004 года афіцыйным дэкрэтам папярэдняга пантыфіка Яна Паула II «Decretum super heroicitate Virtutum» афіцыйна прызнаны подзвіг дабрадзейнасці біскупа Баляслава Слоскана. Праз заступніцтва біскупа Баляслава Слоскана шматлікія людзі атрымалі духоўную лагоду, былі вылечаны фізічна і духоўна».

На працягу гэтага дня пілігрымкі адбываліся важныя падзеі, галоўнай з якіх была Імша на беларускай мове. Гэта сапраўды было знакавай падзеяй, бо Набажэнства на беларускай мове праводзілася тут, на латышскай зямлі, упершыню за ўсе гады існавання Каталіцкага Касцёла ў Латвіі. Цэлебраваў яе ксёндз Уладыслаў Завальнюк, які ў свой час закончыў у Латвіі духоўную семінарыю. Шмат людзей, карані якіх з Беларусі, сабралася на гэтай Імшы. У сваім казанні святар звярнуўся менавіта да іх, просячы не забываць роднай беларускай мовы, захаваць чысціню веры, перадаваць традыцыі свайго народа нашчадкам, каб яны не забывалі, адкуль паходзяць іх продкі, каб пілігрымкі да святых месцаў, а ў прыватнасці, сюды, да Аглоны, аб'ядноўвалі людзей розных краін у духу веры. Ксёндз Уладыслаў падзякаваў Яго Эмінэнцыі ксяндзу-кардыналу Латвіі Янісу Пуятсу, канферэнцыі біскупаў Латвіі за магчымасць «сустракацца духоўна з суайчыннікамі з Беларусі, аб'яднацца з імі ў малітве, каб аднавіцца духоўна і вынесці адсюль іскарку веры, якой змаглі б падзяліцца і ў сябе на радзіме, вярнуўшыся дадому». У сваю чаргу мы, пілігрымы з Мінска, ганарымся, што маем велічную бацькаўшчыну – Беларусь, але ўсе нашыя народы аб'ядноўвае «дух веры і малітвы».

За пэўны час да свята па парафіях Латвіі аб'явілі, што будзе адбывацца такое набажэнства, і тут сабраліся людзі, карані якіх – з Беларусі. Вельмі кранала сэрца назіранне таго, з якой увагай услухоўваліся людзі ў казанне, якое прамаўляў на беларускай мове святар Уладыслаў Завальнюк.

У кожнага выхадца з Беларусі – свая гісторыя. І не заўжды лёс, дзякуючы якому чалавек апынуўся ў Латвіі, быў лёгкім і спрыяльным. Мы бачылі людзей, якія ўсю Імшу прастаялі на каленях, удзячныя за магчымасць чуць беларускія словы і спевы. У жанчыны, якая стаяла побач з транспарантам «Мінск - Белраусь», ні на хвіліну не высыхалі слёзы. Шмат жывых гісторый мы пачулі ад людзей, якія сустракалі пілігрымаў з Беларусі, дзелячыся сваёй радасцю, распытваючы аб нашым жыцці, і распавядаючы аб сваім.

У Імшы ўдзельнічаў хор «Голас душы». Сваімі спевамі ён не толькі ўпрыгожыў набажэнства, але ўразіў, пакарыў і літаральна заваяваў сэрцы ўдзельнікаў

святаў. Спевы ў яго выкананні, як нельга лепш, дапаўнялі атмасферу гэтых святочных дзён у Латвіі. Класічныя, урачыстыя, велічныя творы ў іх выкананні ўзрушылі душы слухачоў.

Шмат песень сакральных, беларускіх прагучала потым і на канцэрце, які адбыўся адразу пасля Імшы. У аб'яднаны хор уваходзілі таксама ўдзельнікі мужчынскага хору «Арханёл» і хору хлопчыкаў «Сымонкі».

*Ала Неўровіч.*
*Працяг будзе*




*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Пры дапамозе арханёла Рафала сваяк не толькі вярнуў пазычанае, але і выдаў за Тобія сваю дачку Сару.

Калі юнак спытаўся у Рафала, хто ён? пачуў у адказ:

«Я – Рафал, адзін з сямі святых Анёлаў, якія ўзносяць малітвы святых і ўваходзяць перад славай Святога» (Тб 12, 15).

*Ксендз Уладыслаў Завальнюк*
*(выкарыстаны матэрыял з кнігі «Календар Хрысціяніна»)*

# СВЯТЫ ХРОСТ

**З радасцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:**



1. Марыя Дзіос-Троцкая, дачка Антоніса і Алены
2. Канстанцін Маліноўскі, сын Андрэя і Кацярыны
3. Аляксей Палановіч, сын Леаніда і Святланы
4. Беата Сельская, дачка Віталія і Таццяны
5. Ганна-Кацярына Карнацкая, дачка Алега і Наталлі
6. Дар`я-Марыя Жэбрык, дачка Валерыя і Вольгі
7. Эмілія Маллеева, дачка Руслана і Валянціны
8. Даніла Мойса, сын Ігара і Наталлі

## Малітва бацькоў пасля Хросту

Божа, Ойча ўсяго жывога! Зірні ласкава на гэтае дзіцятка, якое Ты даў нам. Адары яго верай, надзеяй і любоўю, учыні, каб, узрастаючы ў ласцы і любові і стала дзіцяткам Тваім навекі.

# ВІНШУЕМ МАЛАДЫХ

**Аддаём пад апеку Бога маладых, давяраючы, што стрымаюць у сваім жыцці сужэнскую прысягу. Просім нашых парафіянаў аб малітве за іх:**



1. Батуру Паўла і Батуру (Янушэвіч) Юлію
2. Калбанава Дзмітрыя і Салавову Алену
3. Бурбліса Уладзіміра і Жалезка Вольгу
4. Бандарэцкага Яўгена і Славакову Марыю
5. Супрановіча Дзмітрыя і Крывадубскую Вольгу
6. Данісевіча Паўла і Рак Алу
7. Карканіцу Аляксандра і Ткачову Юлію
8. Блюшча Генадзія і Крывіцкую Таццяну

*Любоў цярпіць доўга, любоў міласэрная, любоў не зайздросціць, не праслаўляе сябе, не ганарыцца, не шукае свайго, не цешыцца з няпраўды. Любоў ніколі не знікае...*

**СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА**

______ . ______ 2006г. у ______ . ______ гадзін

*у інтэнцыі*

| 25 верасня Панядзелак | 26 верасня Аўторак | 27 верасня Серада | 28 верасня Чацвер | 29 верасня Пятніца | 30 верасня Субота | 1 кастрычніка Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - * | 9.00 - ✞ | 9.00 - * | 9.00 - ✞ | 8.00 - ✞ | 8.00 - * | 8.00 - * |
| 12.00 - ✞ | 12.00 - * | 12.00 - ✞ | 12.00 - * | 9.00 - * | 10.00 - * | 9.00 - * |
| 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 11.00 - * | 12.00 - ✞ | 11.00 - * |
| 19.00 - * | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - * | 17.00 - * | 17.00 - ✞ | 13.00 - S |
| | | | | 19.00 - ✞ | 19.00 - * | 17.00 - *👪 |
| | | | | | | 19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых
* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай
S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі
M – Св. Імша з удзелам парафіяльнай моладзі
PL – Св. Імша на польскай мове
👪 – Св. Імша для дзяцей
**скл.** – складковая Святая Імша
IT – Св. Імша на італьянскай мове
♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**

**26 верасня** - Успамін св. Космы і Дзям'яна, пакутнікаў
**27 верасня** - Успамін св. Вінцэнта дэ Поля, святара
**28 верасня** - Успамін св. Вацлава, пакутніка
- Успамін св. Лаўрэнція Руіса і паплечнікаў, пакутнікаў
**29 верасня** - СВЯТА СВ. МІХАЛА АРХАНЁЛА (АПЕКУНА МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ ПРАВІНЦЫІ КАСЦЁЛА), СВ. ГАБРЫЭЛЯ І РАФАЛА, АРХАНЁЛАЎ
**30 верасня** - Успамін св. Герамніма, святара і доктара Касцёла

**24 ВЕРАСНЯ - 25 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

# АБ`ЯВЫ

**АБ'ЯЎЛЕНЫ МАСТАЦКІ КОНКУРС, прысвечаны Яну Паўлу II.**

Дзяцей і моладзь ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў запрашаем дасылаць малюнкі на тэмы: «Жыццё і дзейнасць Яна Паўла II» і «Пілігрымкі Яна Паўла II» да 15 кастрычніка ў сваю парафію.

Конкурс будзе праведзены на пачатку лістапада 2006 г. Абвяшчэнне вынікаў і ўручэнне ўзнагародаў лаўрэатам конкурсу і падзяка ўдзельнікам адбудзецца 18.11.2006 г. у архікатэдральным касцёле г. Мінска.

# ІМЯНІНЫ

**25 верасня – бл. Уладыслаў** – Фёдар, Уладыслава, Аўрэлій, Аўрэлія, Галіна, Сямён, Юльян, Амелія, Святаполак
**26 верасня – св. Косма і св. Дзям'ян, св. Ніл** – Валяр'ян, Цыпрыян, Валерыя, Лук'ян, Лявон, Серапіён, Юльян, Люцыя, Юстына
**27 верасня – св. Вінцэнт, св. Лаўрэн** – Ян, Амадэй, Рыма, Элеанора, Яніна, Дамян, Косма
**28 верасня – св. Вацлаў** – Максім, Люба, Вінцэнты, Юстын, Марк, Вацлава, Акакій, Багдан, Іосіф, Мікіта, Парфірый, Фядот, Сцяпан
**29 верасня – св. Міхал арханёл, Габрыэль арханёл, Рафал арханёл** – Міхаліна, Віктар, Вікторыя, Вальдэмар, Павел, Паўліна, Людміла, Дарафей, Іосіф, Купрыян
**30 верасня – св. Геранім, св. Рыгор, св. Францішак** – Вераніка, Соф'я, Эдуард, Тэрэза, Надзея, Вера, Любоў, Фядоцця, Зіновій, Ілля, Ніл, Геранім
**1 кастрычніка – св. Тэрэза, св. Раман** – Данута, Яўген, Васіль, Эміль, Эмілія, Яўгенія

Голас душы № 38 (221) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 2003 г.

Заснавальнік: грамадскае аб'яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрднасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар - Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by, www.churchminsk.by.
Падпісана да друку 21.09.2006. Фармат 60х84 1/8. Наклад 250 асобнікаў. Заказ №

## ЭДВАРД ВОЙНИЛОВИЧ

# ВОСПОМИНАНИЯ

### УЗОР АЙЦА, ФУНДАТАР І МЕЦЭНАТ ПАБУДОВЫ КАСЦЁЛА св. Сымона і св. Алены, а наш суайчыннік Эдвард Вайніловіч, 11 чэрвеня вярнуўся ў свой храм!



*Продолжение. Начало в № 7.*

После окончания торжеств по случаю открытия необходимо было подумать о постоянном месте жительства, что было вовсе нелегкой задачей в связи с неожиданным перенаселением столицы. Однако мне удалось найти меблированные и соответствующие моему статусу апартаменты с прислугой и всеми удобствами на Саперном, 19, которые мне предоставила баронесса Граевенитц, мать бывшего маршалка Пинского повета и тогдашнего губернатора где-то в Новороссии. Сама она уехала за границу. Квартира была расположена между Думой и Государственным Советом, то есть в весьма удобном месте. Там я и жил в период существования I и II Думы. Во время созыва III Думы я жил вначале на Морской, 56, рядом с кирхой, но дольше всего в гостинице «Hotel de France».

Польское представительство в Государственном Совете и II Государственной Думе было достаточно многочисленным, так как среди 412 думских депутатов со всего государства, 36 депутатов были от Польского Королевства, причем так называемый «Западный Край» поставил в I Думу больше двадцати депутатов. В Государственном Совете поляки составляли 18 человек, среди которых 7 – из «Конгресувки», 9 – из Западного Края (по одному от каждой губернии) и 2 – случайно избранных из числа российских промышленников, а именно: Глезмер из Петербурга и Винцент Поклевский-Козел с Урала. Избранию такого большого представительства Королевство должно быть благодарно депутату Государственной Думы Евстахию Добецкому, искусно проделавшему большую работу среди официальных властей Варшавы. К сожалению, это продолжалось недолго; правительство заметило, что польские голоса слишком сильно влияют на постановления Думы, и на следующих выборах количество думских депутатов от Королевства было сокращено до 6-ти. С другой стороны, депутаты от Королевства, мало ориентирующиеся в ситуации правящих кругов, своим поведением способствовали этому сокращению. Но об этом ниже.

В состав членов Государственного Совета входили поляки от 9 западных губерний: от Киевской – Сырочинский, от Подольской – Вацлав Еловицкий, от Волынской – граф Ян Олизар, от Виленской – Гипполит Корвин-Милевский. Гродненская губерния предоставила Димитра Корыбут-Дашкевича, Ковенская – графа Александра Тышкевича, Витебская – Лопатинского. Могилевская губерния предоставила Александра Выковского (кадета, который вскоре вышел из состава Государственного Совета, а на его место был избран Владислав Войнич-Сяноженцкий). От Минской был избран Эдвард Войнилович. Депутатами в Государственный Совет от Короны являлись: Евстахий Добецкий, барон Леопольд Кроненберг, граф Юзеф Островский, Антоний Напюрковский, Константин Пшевлоцкий и Станислав Гавронский, а также от города Варшавы – Станислав Ротванд. В связи с задержкой, выборов эти депутаты прибыли в столицу позже.

Перед прибытием депутатов из Королевства, мы собирались на квартире гостеприимного коллеги графа Тышкевича на частные совещания. Затем, когда депутатская группа была уже в полном составе, свои апартаменты нам предоставил барон Кроненберг на улице Моховая, 14. Там, за малыми исключениями, почти все время существования законодательных палат проходили совещания депутатов Государственного Совета

Редактирование устава нашей группы в Государственном Совете отнимало у нас массу времени. Зная из практики, что российские бюрократы всегда настороженно относятся к любой солидарности восточных окраин с Короной, а также, будучи убеждены сами, что иногда интересы этих двух районов могут отличаться, мы единогласно решили, что должны существовать две группы, каждая со своим председателем, но объединенные одним уставом и персоной общего

председателя. Это была формальная сторона дела, по существу же мы шли в одном направлении. Пару раз в году появлялась необходимость отдельных заседаний той или другой фракции. Тогда решения данной фракции выносились председателем на «форум» обеих, которые должны были поддерживать одна другую солидарными действиями на пленарном заседании Государственного Совета.

Каждый, кто мог наблюдать за заседаниями законодательных палат, понимает, какую важную роль играет устав. Поэтому к его разработке мы подошли самым серьезным образом. Опыт польских представительств в Вене и Берлине, плюс материалы и замечания таких государственных деятелей как Островский и Добецкий, облегчило нашу задачу. После долгого обсуждения нами был разработан и принят «Устав союза фракций Польского Королевства, Литвы и Руси в Государственном Совете в Петербурге», оригинал которого можно найти в комментариях к книге. Надо признать, что устав был очень жестким, но очень полезным, так как коллектив наших депутатов вначале не имел ни политического, ни парламентского опыта. Возможно, благодаря этому уставу, нашим представителям удалось избежать ошибочных шагов и заслужить уважение в Государственном Совете.

После принятия устава были проведены выборы вначале в каждой группе: на должность председателя депутатов Государственного Совета от Королевства был избран Юзеф Островский, а председателем от Литвы и Руси – Эдвард Войнилович. Затем, единогласно общим председателем обеих групп был избран Эдвард Войнилович, вице-председателем – Юзеф Островский, секретарем – Констанций Пшевлоцкий. Обязанности председателя я выполнял в период созывов I и II Думы. Когда мы собрались на III Думу, председателем обеих групп был избран Евстахий Добецкий, а председателем от Литвы и Руси – граф Олизар. Такая ситуация оставалась до конца нашей работы, то есть до конца созыва, который продолжался вместо трех четыре года.

Должность председателя была весьма почетной, но сама работа очень трудной. Во-первых, приходилось иметь дело с людьми, которые везде в своих провинциях занимали руководящие должности, сами везде были «председателями», и не привыкли подчиняться; во-вторых, большинство из них имели предвзятое мнение, что «Войнилович всех водит за нос», поэтому ему нужно показать, что самовольством заниматься ему не будет позволено. Кстати, это было всегда в традициях дворянства выбирать короля на свободе, чтобы жизнь ему несладкой сделать. Поэтому я должен был быть всегда на страже, следить за собой и другими, чтобы никакие конфликты не смогли омрачить солидарность наших групп и порадовать чужой глаз. Удалось ли мне это сделать, судить лучше моим коллегам.

Я не буду здесь о них вспоминать, а вернее давать им характеристики; многие из них еще живы, известные личности в нашем обществе, и, полагаю, не нуждаются в моей аттестации. Хочу только отметить, что в трудных случаях я всегда имел возможность воспользоваться доброжелательной и опытной подсказкой, обоснованной многолетним трудом на ниве общественной работы моих коллег из Королевства: Добецкого и Кроненберга, а также навсегда у меня осталась благодарная память о моих коллегах «кресовых»: графе Олизарии Еловицком, графе Тышкевиче и Корыбут-Дашкевиче. Поскольку согласно основным государственным законам все законодательные вопросы должны быть предварительно рассмотрены в Думе перед тем, как будут переданы на рассмотрение в Государственный Совет, первые пару недель, пока материалы находились на рассмотрении в нижней палате, пленарные заседания Госсовета проводились относительно редко и касались в основном составления своего устава. Кроме этого, часто организовывались неофициальные встречи в Мариинском дворце с целью обсуждения текущих дел и взаимного знакомства, причем здесь выделились не партии, поскольку таковых в Государственном Совете не было, а три группы: правые, центристы и левые. Правые, которые своей численностью немного превышали центристов, но были едины, состояли в основном из назначенных членов. Это были люди старшего возраста, искушенные, с большим чиновничьим прошлым и административным опытом и бюрократическими навыками, не принимающие нового порядка вещей. Центристы, состоящие в основном из избранных членов, маршалков шляхты, земцев и наиболее либеральной фракции высшей администрации. И, наконец, левые, насчитывающие немногим более десяти членов и состоящие из преподавателей университетов и левых земцев. Кроме всего, было, как обычно, несколько «диких».

Согласно списку членов Государственного Совета за 1908 год всего «присутствующих членов» было 194, из которых половина была назначена, а половина избрана. Из этого числа 80-100 членов считали себя центристами, в связи с чем преимущество при голосовании должно было быть всегда за ними. Но, поскольку центристы не были партией, а всего лишь группой, и регламент не предусматривал обязательную солидарность при голосовании на пленарном заседании, плюс ко всему то, что некоторые из них глубоко в душе разделяли идеи правых, не всегда постановления группы центристов на общих собраниях решали судьбу дополнений к законам.

*Ксёндз Владислав Завальнюк*

*Продолжение следует*